ТЫДНЁВЫ АГЛЯД
ДАЙДЖЭСТ № 7 10 кастрычніка 2006 г.

# Власть задним числом придает «легитимность» 3-му сроку

**Используя бурную реакцию общественности на вносимые в Избирательный кодекс РБ и Закон о массовых мероприятиях РБ поправки в преддверии избирательной кампании в местные советы, а также ограниченный доступ к информации, власть тихо провела самую необходимую для признания легитимности 3-го срока А.Лукашенко поправку в Закон о президенте РБ.**

Так, представляя сегодня членам Совета республики законопроект по внесению изменений и дополнений в законы по вопросам проведения выборов и референдумов, председатель Постоянной комиссии по законодательству и государственному строительству Наталья Андрейчик сообщила, что поправки предусматривают необходимые изменения в Избирательный кодекс и закон "О Президенте Республики Беларусь", вызванные изменением Конституции на республиканском референдуме по вопросу о снятии ограничений на количество сроков, которые одно и то же лицо может занимать высшую государственную должность в Беларуси.

Напомним, что до сих пор (упомянутые поправки еще должен подписать президент) действующий Закон «О президенте Республики Беларусь» не предусматривает возможности третьего, четвертого и т.д. президентского срока. Статья 8 этого закона четко оговаривает, что срок полномочий президента - пять лет, и что одно и то же лицо не может быть президентом более двух сроков.

Накануне президентских выборов в марте 2006 года власть упорно твердила, что это ничего не значит. Что, мол, прошел референдум, внесены изменения в Конституцию, и этим все сказано. Однако полгода спустя своими действиями власть пытается задним числом придать «легитимность» третьему сроку президентства А.Лукашенко. Если после стольких заверений о «незначимости», все-таки вносят поправку, значит, выборы действительно были нелегитимными. Второй срок президентства окончательно истек 20 сентября 2006 года. И сейчас обязанности главы государства должен исполнять премьер-министр.

**www.afn.by**

# БРСМ рыхтуе байцоў?

Прадстаўніцтва БРСМ у Гомельскай вобласьці паведаміла, што будзе ладзіць “Першы гарадзкі фэстываль працоўных атрадаў “Працоўны сэмэстар”. Як паведамляе праз сайт Гомельскага аблвыканкаму “ГА” БРСМ, асноўныя задачы фэстывалю – арганізацыя ідэалягічнай працы ў маладзёвых працоўных атрадах ды “працягваньне лепшых традыцыяў камсамольскіх маладзёвых працоўных атрадаў”. Як і чакалася, удзел у мерапрыемстве прымуць прадстаўнікі БРСМ, а таксама нейкія “байцы атрадаў”. Загадзя паведамляецца, што “звание лучшего получат командиры и бойцы молодежных отрядов”.

**www.charter97.org**

## АКЦЫІ САЛІДАРНАСЬЦІ З ПАЛІТВЯЗЬНЯМІ

7 кастрычніка ў Менску адбылася акцыя салідарнасьці з палітвязьнямі Зьмітром Дашкевічам і Паўлам Красоўскім. Некалькі чалавек прыйшлі да будынку Галоўнага паштамту, каб адтуль даслаць ліст Дашкевічу і Красоўскаму. Паколькі каля будынку Галоўнага паштамту стаяла некалькі чалавек зь міліцыі Цэнтральнага раёну, а таксама рота байцоў спэцназу міліцыі, моладзь хутка разышлася.

## Каля 80 тысяч дзяцей у Беларусі выхоўваюцца без бацькоў

## Лукашенко призвал объединить усилия спецслужб и разведок СНГ

Президент Беларуси заявил о необходимости расширения взаимодействия органов госбезопасности и разведывательных служб СНГ.

## КГБ цісне на сябраў «Моладзі БНФ»

У аўторак, 26 верасьня, у 11:40 раніцы сябру моладзі БНФ Паўлу Краўчанку пазваніў на хатні тэлефон невядомы, які прадставіўся супрацоўнікам Камітэту дзяржаўнай бясьпекі. Пасьля кароткай размовы супрацоўнік прапанаваў Паўлу прыйсьці ва ўстанову Камітэту для дэталёвай размовы.

“Тэлефонны званок нашаму сябру ёсьць сьведчаньнем пачатку актыўнага нагляду за моладзьдзю БНФ з боку Камітэту дзяржаўнай бясьпекі, камэнтуе сытуацыю старшыня моладзі БНФ, юрыст Алесь Каліта. - Фармат тэлефоннага званка, па сутнасьці, ананімнага, дазваляе меркаваць, што ў дачыненьні Паўла Краўчанкі была прынятая спроба прамацаць глебу, а таксама знайсьці сваіх сексотаў унутры нашай арганізацыі”.

**www.pbnf.org**

## Магілёўскія спэцслужбы вабяць маладафронтаўцаў у КДБ

***Падзеі, якія пасьля 14 верасьня разгарнуліся ў Магілёве можна назваць разгромам мясцовага Маладога Фронту.***

З 20 затрыманых у той дзень спэцназам чалавек 12 непаўналетніх патрапілі пад жорсткі прэсінг КДБ, Зьміцер Дашкевіч патрапіў за краты, а Артур Фінькевіч — у больш жорсткія варункі ўтрыманьня ў Магілёўскай спэцкамэндатуры.

Ціск на непаўналетніх не прыпыняецца ўжо ад двух тыдняў. Цяпер супрацоўнікі КДБ абралі іншую тактыку. Навучэнцу магілёўскага ліцэю № 5 Алесю Анісімаву, які адмовіўся ад свайго ўдзелу ў незарэгістраваным Маладым Фронце, але заявіў, што зьяўляецца сябрам Моладзі БНФ, супрацоўнік спэцслужбаў прапанаваў стаць „сябрам КДБ”. Падчас імправізаванага допыту „без пратаколаў” дырэктар навучальнай установы выйшаў са свайго кабінэту і юнак застаўся сам-насам з двума супрацоўнікамі камітэту дзяржбясьпекі. Хлопцу паабяцалі сходзіць у кафэ ды прапанавалі дапамогу ў паступленьні ў школу міліцыі, калі той да пятніцы зьбярэ інфармацыю пра грамадзкую актывістку Крысьціну Шацікаву ды былога актывіста руху „Зубр” Яўгена Суворава. Акрамя Анісімава, падобныя прапановы атрымалі таксама Уладзімер Шчыцінін ды Яўген Адзінец. Усе хлопцы ад супрацоўніцтва адмовіліся.

**Аляксандар Буракоў. Радыё "Рацыя"**

# Прыватнае мэтро дыктатара

***У Бухарэсьце адкрыта сетка тунэляў, пабудаваных для Нікалаэ Чаўшэску.***

Былы дыктатар меў прыватную лінію мэтро й падземную шашу працягласьцю ў некалькі кілямэтраў. Падземную камунікацыйную сетку для Нікалаэ Чаўшэску войска пабудавала ў поўным сакрэце на пачатку 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Найбольш важныя кропкі ў горадзе спалучала лінія мэтро працягласьцю ў 10 кілямэтраў. У будучыні плянавалася прадоўжыць лінію да 20 кілямэтраў. Акрамя таго, пад Бухарэстам была пабудавана падземная шаша, карыстацца якой маглі толькі дыктатар і яго сям’я. Спэцыялісты акдрылі таксама чатырох’яруснае атамнае бомбасховішча пад найбольшым у Эўропе будынкам – Палацам народу. Адначасова ў сховішчы магло знаходзіцца некалькі соцен чалавек.

**Polskie Radio SA**

# Фашистов в Беларуси не замечают

**Руководитель Витебской городской организации Объединенной гражданской партии Елена Залесская получила ответ из КГБ по поводу угроз в свой адрес сторонников РНЕ.**

Как сообщил начальник управления КГБ по Витебской области Владимир Полещук, в «результате проведенных проверочных мероприятий» установлено, что организация Русское национальное единство на учете в Министерстве юстиции и управлении юстиции Витебского облисполкома не состоит. Лиц, причисляющих себя к сторонникам формирования РНЕ, на территории Витебской области также не выявлено, говорится в ответе КГБ.

Начальник управления КГБ не усмотрел в письме, которое РНЕ прислало Елене Залесской, угроз в ее адрес. Указанный в качестве отправителя абонентский ящик, информирует Владимир Полещук, зарегистрирован на имя лица, которое не причастно к деятельности РНЕ и не имеет отношение к отправлению письма. Аналогичный ответ пришел Елене Залесской и из КГБ Республики Беларусь.

Напомним, что 10 июля руководитель Витебской городской организации ОГП получила письмо от имени РНЕ, адресованное ей и коллегам по партии. «Уважаемый Александр Григорьевич Лукашенко на территории Белоруссии целенаправленно уничтожает всех неугодных русским, — говорится в этом послании. — Поэтому РНЕ всячески его поддерживает, и будет помогать в этом нужном деле. Пока не поздно, выходите из вашей коррупционной оппозиции и присоединяйтесь к нам — чистой русской нации. В случае отказа — последуют наши действия»

С такими же угрозами получила письмо от РНЕ редакция газеты «Витебский курьер». Как сообщила Елена Залесская, сразу после получения письма ей стали звонить по телефону и молчать. Попытки перезвонить по этим телефонам (228-90-44, 228-90-36, 228-90-47) ничего не дали: номера заняты в любое время суток.

«Что РНЕ на учете в органах юстиции не состоит, мы знаем и без КГБ, — отметила в разговоре с пресс-службой ОГП Елена Залесская. — А КГБ в первую очередь должно волновать то, что фашисты действуют. Да, убийств пока нет, но угрозы уже есть. Будем ждать убийств, избиений, поджогов и взрывов?».

**www.charter97.org**

**Ад рэдакцыі:** РНЕ ў адкрытую карыстаецца нацыскай свастыкай, прапагандуе нацыянальную нецярпімасьць і гвалтоўныя мэтады барацьбы. Іх можна ўбачыць на вуліцах Менску, Баранавічах, Віцебску і шмат якіх іншых гарадоў, а у Горадні яны пару год таму нават шэсьці праводзілі. Аднак праваахоўныя органы ў першую чаргу спрабуюць паралізаваць актыўнасьць беларускіх дэмакратычных актывістаў, якія падкрэсьліваюць сваю прыхільнасьць негвалтоўным дзеяньням і ніколі не паддаюцца на правакацыі. Зараз Паўлу Красоўскаму, кіраўніку Жодзінскага Маладога Фронту і выбарчага штабу А. Мілінкевіча інкрымінуюць арганізацыю выбухаў у Віцебску, хоць па сьведчаньням сяброў Паўла ён увогуле у час, калі адбыліся выбухі, знаходзіўся па-за межамі Беларусі. Штосьці падобнае было ў Мастах перад апошнімі прэзыдэнскімі выбарамі, калі па гораду пусьцілі чуткі аб падрыхтоўцы тэрарыстычных актаў у горадзе. Нават па тэлевізіі паказалі “сьведчаньні тэрарыста”, у якім знаёмыя пазналі сябра ініцыятыўнай групы па зборы подпісаў у падтрымку А. Мілінкевіча. Раённая газэта “Зара над Нёманам” таксама надрукавала матэрыял аб затрыманьні “тэрарыста”. Перад гэтым у шэрагу мастоўскіх дэмакратычных актывістаў праводзіліператрусы і канфіскоўвалі кампутары, дакумэнты і інш. матэрыялы па надуманых прычынах. У той жа час па БТ на усю рэспубліку пужалі дохлымі пацукамі ў менскай сыстэме каналізацыі, якімі зьбіраліся нас атруціць баевікі з Грузіі. У Берасьцейскай вобласьці па сельскіх раёнах бабулек з дзядкамі кармілі чуткамі аб падрыхтоўцы выбухаў на ўчастках для галасаваньня. І гэтак па ўсёй краіне. Аднак адразу ж пасьля выбараў усё сьціхла і замоўкла. Значыць, не было ніякіх тэрарыстаў? Навошта тады было так людзей запужваць?

Чаму ў нашай краіне саджаюць у турмы і высылаюць на “хімію” за вершы, мультфільмы, сатыру, дзе крытыкуецца сёньняшні рэжым, а не заўважаюць фашыстаў, якія адчуваюць сябе вольна на зямлі, дзе загінула столькі людзей падчас апошняй вайны. Чаму былы **міністр унутранных спраў Беларусі Ў. Навумаў** ў ведамасным часопісе “Честь” рэкамэндуе задумацца сваім былым падначаленым аб кодэксе гонару нямецкага афіцэра, напісанага А. Гітлерам, дзе падкрэсьліваецца : ***“любоў да фюрэра, народа і бацькаўшчыны перад усім. Таму афіцэр павінен дакладна аддзяліць ад сябе тых, хто знаходзіцца ўбаку ад нямецкага шляху і барацьбы.”*** Што адбываецца ў нашай краіне?

# Маці Паўла Красоўскага ўпэўненая ў невінаватасьці сына



Маці Паўла Красоўскага назвала падазрэньні свайго сына ў падрыхтоўцы да віцебскіх выбухаў фарсам.

Тамара Красоўская сказала ў інтэрвію Радыё Свабода, што ўпэўненая ў поўнай невінаватасьці Паўла. Паводле спадарыні Красоўскай, яе сын ніколі не брыдкасловіў і ня біўся. **“Я думаю, што гэта проста фарс. Тое, што ён невінаваты — я проста ўпэўненая. Ён лаянкавага слова сказаць ня можа, нават ня біўся ні разу. І тэрарызм — гэта не ягоны мэтад барацьбы. А тое, у чым яго падазраюць, — гэта проста дзікунства. У яго нават на словах гэтага ніколі не бывае”–** сказала маці затрыманага ў Віцебску моладзевага актывісту. Тамара Красоўская гаворыць, што прыкладна ў той час, калі адбыліся тыя выбухі, яе сын знаходзіўся за мяжою ў Польшчы ды Чэхіі, і ў ягоным пашпарце ёсьць адпаведныя адзнакі перасячэньня мяжы.

Намесьнік старшыні Беларускага Хэльсынскага камітэту Гары Паганяйла мяркуе, што сьледзтва ня мае ніякіх канкрэтных доказаў, што Павал Красоўскі вінаваты ў забойстве й тэрарызьме: **“Ім трэба стварыць уражаньне, падняць вялікі шум і дыскрэдытаваць “Малады фронт”. Паводле дакладнага сцэнару 1937 году нашы ўлады рыхтуюцца да масавых працэсаў”**

**www.svaboda.org**

## Навіны агенцыі Телеграф

### Количество голодающих-протестантов увеличилось в Минске до 109 человек

В здании церкви, которую хозяйственный суд Минска обязал продать Мингорисполкому, в ночь с восьмого на девятое октября голодали 69 протестантов.

### Руководителя юридической службы заключенного Козулина вызвали на допрос

Правозащитника Олега Волчека, который возглавляет юридическую службу Александра Козулина, вызвали для допроса в Гродненскую региональную таможню.

## АНЕКДОТ

Жизненный принцип советского чиновника: **“Собственное мнение у меня есть, но я его не одобряю и не поддерживаю”.**

**ТЫДНЁВЫ АГЛЯД**
**Інфармацыйнае выданьне**
Выдаецца нерэгулярна у беларускай і расейскай мовах.
Наклад 299 ас. Распаўсюджваецца бясплатна.
Адрас рэдакцыі: вул. Ф. Скарыны 1, 231600, Масты,Беларусь
Надрукавана на прыватнай друкарцы.
Электронная пошта для ліставаньня: zialvianka@yahoo.de
Рэдактар: Міхась Бі, Заснавальнік : Алег Зімоўскі